# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 46 (716) 16 ЛІСТАПАДА 1969 г. ЦАНА 60 гр.


# БГКТ

### ПАСЯДЖЭННЕ ПРЭЗІДЫУМА ГП

Як мы ўжо інфармавалі, 21 лістапада адбудзецца пленум Галоўнага праўлення Беларускага таварыства. У сувязі з гэтым 30 кастрычніка на пасяджэнні прэзідыума ГП быў абмеркаваны даклад «Задачы БГКТ у святле пастаноў VI з'езда БГКТ». Прэзідыум зацвердзіў таксама праграму святкавання 100 гадавіны з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна. Пасля сакратар ГП Янка Зенюк паінфармаваў прысутных аб супрацоўніцтве БГКТ з іншымі арганізацыямі, якому прысвечваецца зараз вельмі многа ўвагі.

Наступным пунктам пасяджэння было пакліканне камісій: этнаграфічнай, асветы, культуры, прапаганды, а таксама лектарскай групы ГП.

На гэтым жа пасяджэнні шырока абмяркоўваліся агульныя напрамкі беларускага календара на 1971 год. Далейшымі пунктамі пасяджэння былі арганізацыйныя справы гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку, а таксама некаторыя фінансавыя справы.

### У ГДАНЬСКІМ ГУРТКУ БГКТ

Гданьскі гурток БГКТ налічвае зараз 123 члены (у тым ліку 15 студэнтаў). 25 кастрычніка гурток арганізаваў вечарыну, мэтай якой было знаёмства з новымі людзьмі і разбудова гуртка.

27—28 кастрычніка сакратар ГП БГКТ Янка Зенюк наведаў у Гданьску Ваяводскі камітэт ПАРП, Прэзідыум ВРН і МРН і ўладзіў там памяшканне для гуртка, які ў хуткім часе ператворыцца ў аддзел БГКТ. Сакратар ГП правёў таксама сустрэчу з гданьскімі БГКТ-оўцамі.

### ПАСЯДЖЭННЕ ПРЭЗІДЫУМА АДДЗЕЛА

27 кастрычніка адбылося пасяджэнне прэзідыума Бельскага аддзела БГКТ з наступнай павесткай дня: 1) Ацэнка канферэнцыі настаўнікаў, якую арганізаваў нядаўна аддзел, 2) Справы звязаныя са скліканнем у лістападзе нарады старшынь гурткоў БГКТ і кіраўнікоў мастацкіх калектываў, 3) Арганізаванне акадэмій з нагоды 52 гадавіны Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, 4) Справы розныя: а) абмяркоўка магчымасці арганізавання клуба для гарадскога аддзела, б) справа хору і в) справа конкурсу на беларускую песню ў рамах IX агульнапольскага конкурсу на савецкую песню.

### ПАДРЫХТОЎКА ДА КАНФЕРЭНЦЫІ

У Беластоцкім павеце існуе зараз два аддзелы БГКТ, у Гарадку і Міхалове. Прэзідыум ГП пастанавіў аб'яднаць гэтыя аддзелы і ўтварыць Павятовае праўленне аддзела з сядзібай у Беластоку. У сувязі з гэтым вядуцца падрыхтовачныя працы звязаныя са скліканнем канферэнцыі і выбарам улад аддзела.

### 26 ГАДАВІНА ВОЙСКА ПОЛЬСКАГА

18 кастрычніка Гарадоцкі аддзел БГКТ адзначыў 26 гадавіну Войска Польскага. З песенным мантажом аб Войску Польскім выступіў гарадоцкі харавы калектыў.

### ГРАМАДСКІ КАМІТЭТ ПАРП І БГКТ

30-га кастрычніка грамадскі камітэт ПАРП у Рыбалах (сакратар Сяргей Філіпюк) абмеркаваў працу гурткоў БГКТ у сваёй грамадзе. (мх)



Самым сучасным кварталам дзесяцітысячнай Саколкі з'яўляецца «Зялёны пасёлак». У Саколцы называюць яго «кварталам шчаслівых». Фотарэпартаж пра гэты пасёлак глядзіце ў сярэдзіне гэтага нумара.

**З ВОПЫТУ СУСЕДЗЯЎ**

# БУЛЬБЯНЫ МЕДАЛЬ

Хутар Афанаса Кавалевіча распалажаны за вёскай Літвінавічы, якая знаходзіцца ва ўсходнім раёне Сямяціцкага павета. Дзядзьку Афанасу ўжо 66 год.

Чуў я пра яго ўжо даволі даўно. Вёска Літвінавічы заўсёды славілася ў наваколлі сваім багаццем. А пра Кавалевіча часта можна было пачуць: — Умее гаспадарыць. Вопытны ён.

— Якая ў вас зямля? — пытаю дзядзьку Афанаса.

— Зямля, як зямля, — IV і V клас, — і пасля кароткага роздуму дадае: — Кожная зямля добрая, калі каля яе дбайна і разумна пахадзіць.

— А як разумна хадзіцца за зямлёю?

— Вучыцца трэба — вось што. Цёмны гаспадар — тое, што сляпы шафёр. Едзе, імчыцца, а куды? Бог яго ведае.

Вось цяпер ва ўсіх ужэндах пачалі крычаць: бяры, бяры навозы! А я за гэтымі навозамі яшчэ да вайны аж у Брэст ездзіў! І цяпер бяру кожны год не менш, як па 5 тон.

— А колькі ў вас зямлі?

— Усёй — 15 гектараў. Але ў 1950 годзе пясок і іншыя няўгоддзі засадзіў я дубінай. Вось паглядзіце, які гай развёўся. Тры гектары маладога ўласнага лесу. А колькі там цяпер грыбоў! З цэлай вёскі прыходзяць за імі. Каб мог сам пазбіраць — не менш сарака тысяч злотых даходу было б. Ворнай зямлі маю зараз усяго 5 гектары.

— Як вы яе апрацоўваеце?

— Поле ў мяне разбіта на чатыры дзялянкі. Гэта таму, што толькі ёсць асноўных сельскагаспадарчых культур: бульба, авёс, жыта і пшаніца. Дык там, дзе была бульба, сею пшаніцу, а па пшаніцы — жыта, або авёс. Пасля чатырох год бульба вяртаецца зноў на сваё даўнейшае месца. Такі пладазмен прымяняю ўжо ад няпамятнага часу.

— І што?

— Вынікі добрыя. Інакш бы не трымаўся гэтага метаду. Вось нядаўна закончыў капаць бульбу...

— Яна ў нас найлепшая на цэлую вёску! — уключылася жонка дзядзькі Афанаса. — Яму, — кіўнула яна галавой у бок мужа, — за такую бульбу трэба прызнаць бульбяны медаль! Як бруква вырасла.

Гаспадар паглядзеў на жонку.

— Бульбяны медаль вазьмі ты сабе, а я вазьму грошы. Палічы, колькі можна мець грошай за 440 цэнтнераў бульбы. Столькі накапаў яе ў гэтым годзе. Расла яна на плошчы ў 1,25 га.

Хутка пералічваю ў памяці гэты ўраджай на 1 гектар. Выходзіць 330 цэнтнераў. Рэкордны ўраджай. Пра такі не чуў я на Беласточчыне.

Працяг на стар. 4




Згодна з ацэнкамі павятовых улад Гайнаўшчыны, справа развіцця культурнага жыцця ў павеце маецца найгорш у Нарве. Здзіўляючы гэта факт, калі ўспомнім, што жыве ў гэтым мястэчку каля 2 тыс. насельніцтва, што на месцы ёсць ГРН, ГС, ПОМ, СУВ (спулдзельня ўслугова-вытворчая), школа, міліцыя, пункт аховы здароўя, пошта і некалькі іншых меншых установ. У Нарве існуе «тэрэновы» гурток ЗМВ, які налічвае 21 членаў, а ў ПОМ-е гурток ЗМВ — аж 32 асобы. Ёсць шмат моладзі не згуртаванай у ніякіх арганізацыях. У Нарве ёсць святліца, ёсць вакансія кіраўніка святліцы, ёсць бібліятэка. Але няма куды дзецца ў доўгія асеннія і зімовыя вечары гэтай прынамсі 100-асабовай лічбе моладзі, не гаворачы аб старэйшых. Хіба што ў мясцовай гасподзе.

Выбраўся я ў Нарву. Правёў размову ў ГРН і з прадстаўнікамі моладзі.

Працяг на стар. 4



На скупачны пункт. Фота ЦАФ — Сянько

# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі

 СВЕТ

## ПРАГРАМА АГРЭСІІ

Прэзідэнт Ніксан выступіў з прамовай па тэлевізіі, у якой, паклікаючыся на намер заканчэння в'етнамскага канфлікта, зноў прадставіў праграму працягвання вайны.

Большасць амерыканскіх тэлевізійных каментатараў, якія выступалі зараз пасля Ніксана, ацэньвала яго адмоўна. Ніксан не змяніў нічуць в'етнамскай палітыкі, нічога не запрапанаваў і не прадбачыў нецярплівасці амерыканскага народа.

Ніксан зноў апавясціў адкліканне з В'етнама — у неакрэсленым тэрміне «баявых сухапутных войск» і перадачне іх функцый сайгонскім падраздзяленням г. зн. апавясціў так званую в'етнамізацыю. Гэта абазначае, што ў практыцы ўсё астанецца па старому, а зменяцца толькі назвы з амерыканскіх на в'етнамскія.

Напамінаем, што масавая агрэсія ЗША супраць в'етнамскага народа пачалася ад 1967 г. Барацьба вызваленчых сіл Паўднёвага В'етнама прынесла вызваленне 80% тэрыторыі і 10 мільёнаў насельнітва. Агульны лік у Паўднёвым В'етнаме 17 мільёнаў жыхароў.

Апошняе выступленне Ніксана нельга інакш ацэньваць, як яўнае адхіленне мірнай развязкі. З гэтага вынікае, што не даацэньвае ён ні сілы в'етнамскага вызваленчага руху, ні руху супраць в'етнамскай вайны ў самых Злучаных Штатах.

Гэта праўда, што прэзідэнт у ЗША таксама не можа весці палітыкі сваіх капрызаў, што на яго маюць уплыў адпаведныя кругі. Але прэзідэнт ЗША мае пэўныя рамкі свабоды. Мог ён прынамсі стаяць на тым самым месцы, а як вынікае з прамовы, зрабіў ён крок назад у развязцы в'етнамскай праблемы. Замест праграмы в'етнамізацыі вайны — патрэбна праграма в'етнамізацыі міру.

## НАЦЫЯНАЛЬНЫ ДАХОД

У стварэнні нацыянальнага даходу, паміж паасобнымі краінамі Рады эканамічнай узаемадапамогі, выступаюць значныя розніцы. Найвялікшы ўдзел промыслу ў стварэнні нацыянальнага даходу мае Чэхаславакія — 61,7%, найменшы (не беручы пад увагу Манголіі і Албаніі) — Балгарыя — 45,9%. Найвялікшы ўдзел сельскай гаспадаркі ў стварэнні нацыянальнага даходу мае Балгарыя — 30,4%, а найменшы — Чэхаславакія — 12,0% .

## КОЛЬКІ Ў ВАС ЗАРАБЛЯЮЦЬ?

Сярэдняя месячная заработная плата брута ў аграмаджанай гаспадарцы сягала ў 1967 годзе: у Балгарыі 107 лева, у Чэхаславакіі 1586 коран, у Манголіі 408 тугрыкаў, у Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы 662 маркі, у Польшчы 2195 злотых, у Венгрыі 1874 фарынты, у СССР 103 рублі.

Прапарцыянальна найвялікшыя ашчадныя ўклады былі ў ГДР (2281 марка на жыхара), прапарцыянальна найменшыя — у Савецкім Саюзе, 114 рублёў. Найбольшы ўзрост ашчаднасці (ў параўнанні да 1960 г.) маюць Венгрыя і Польшча (больш чым у 4 разы). А. К.

 БССР

## ЗАНАЛЬНЫ

У Мінску адбыўся занальны семінар-нарада сакратароў абкомаў паўночных і заходніх абласцей Расійскай Федэрацыі, Беларусі і сакратароў ЦК камсамола Прыбалтыйскіх рэспублік. На трактарным і аўтамабільным заводах, на камвольным камбінаце і абутковым аб'яднанні «Прамень» і іншых прадпрыемствах яны сустрэліся з камсамольскім актывам, пазнаёміліся з арганізацыяй спаборніцтва моладзі, з работай камітэтаў камсамола па ваенна-патрыятычнаму выхаванню.

Прамову да ўдзельнікаў семінара меў першы сакратар ЦК камсамола Беларусі Генадзь Жабіцкі.

## ДЗЯРЖАЎНАЙ

Старшыня Савета Міністраў Беларускай ССР Ц. Кісялёў уручыў дыпломы і ганаровыя знакі лаўрэатаў Дзяржаўнай прэміі БССР народнаму артысту Саюза ССР Рыгору Шырме, мастацтвазнаўцу У. Няфёду, архітэктару Н. Трахтэнбергу і лаўрэату Дзяржаўнай прэміі БССР імя П. М. Лепяшынскага журналісту І. Новікаву.

## ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ

Прэс-канферэнцыя для работнікаў друку, радыё і тэлебачання адбылася ў мінскім клубе журналістаў, у час якой выступіў міністр гандлю Беларускай ССР А. Шаўроў.

У выніку няспыннага росту вытворчасці тавараў народнага спажывання і грашовых даходаў з году ў год расце рознічны тавараабарот у Беларусі. За чатыры гады пяцігодкі ён павялічыцца на 54 працэнты — больш, чым у цэлым па Савецкаму Саюзу, заявіў м. ін. міністр Шаўроў.

## ГАНАРОВАЙ

Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР узнагароджаны Мінскі дзяржаўны навукова-даследчы інстытут будаўнічых матэрыялаў за значны ўклад у справу развіцця прамысловасці гэтых матэрыялаў у Беларусі.

## НАРОДНАГА

На пасяджэнні Камітэта народнага кантролю Беларусі разглядалася пытанне аб нездавальняючым выкананні плана па павелічэнню вытворчасці і паляпшэнню якасці малака ў калгасах і саўгасах Брэсцкага, Гродзенскага і Уздзенскага раёнаў.

## ДОБРАЎПАРАДКАВАННЯ

Пытанні азелянення і добраўпарадкавання аховы прыроды, правільнага выкарыстання ландшафту набываюць усё большае значэнне ў практыцы праектавання. Праблемам гэтым прысвечана семінар у Саюзе архітэктараў Беларускай ССР

## МАСТАКОЎ

У пленуме Саюза мастакоў Беларускай ССР, прысвечанаму падрыхтоўцы да стагоддзя з дня нараджэння У. І. Леніна, удзельнічаў намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Р. Кісялёў, які выступіў з прамоваю. (С.Я.)

 ПОЛЬШЧА

## 52 ГАДАВІНА

Ва ўсёй краіне адбыліся ўрачыстасці прысвечаныя 52 гадавіне Вялікай Сацыялістычнай рэвалюцыі. На шматлікіх сходах, сустрэчах і вечарынах польскае грамадства перaказала сардэчныя пажаданні і словы высокага прызнання ў адрас народаў Савецкага Саюза і іх ленінскай партыі. Прадстаўнікі розных асяроддзяў сустрэліся з удзельнікамі рэвалюцыі і салдатамі II сусветнай вайны, якія супольна з савецкімі салдатамі змагаліся супраць гітлераўскіх захопнікаў. У многіх прадпрыемствах прынята прадукцыйныя абавязацельствы і складзена данясенні аб выкананні абавязацельстваў прынятых у гонар 100 гадавіны нараджэння Леніна. На Шлёнску ў Сасноўцу перад Помнікам рэвалюцыйнага пачыну пастаўлена ганаровую варту. Першымі варту прынялі члены экзекутывы Ваяводскага камітэта партыі на чале з членам Палітбюро ЦК партыі І сакратаром Ваяводскага камітэта партыі ў Катавіцах — Эдвардам Геркам.

## ВАТ

5 лістапада І сакратар ЦК партыі Уладзіслаў Гамулка з сакратарамі ЦК Балеславам Яшчукам і Мечыславам Мочарам наведаў Вайсковую тэхнічную акадэмію імя Яраслава Дамброўскага. Камендант акадэміі генерал брыгады прафесар Сыльвестэр Каліскі пазнаёміў Уладзіслава Гамулку і іншыя прысутныя асобы з арганізацыяй і дасягненнямі гэтай навуковай установы. На заканчэнне візіту тав. Уладзіслаў Гамулка высока ацаніў дасягненні акадэміі дзякуючы каменданту і навукова-дыдактычным працаўнікам за працу ў рэалізацыі ўказанняў партыі ў галіне выхавання новых кадраў.

## КАМБІНАТЫ

Рада Міністраў прыняла пастанову ў справе прамысловых і будаўляных камбінатаў. Камбінатамі такімі з'яўляюцца групы будаўляных і прамысловых прадпрыемстваў, навукова-тэхнічных інстытутаў, адзінак таварнага абароту і т.д. Камбінаты дзейнічаць будуць на асновах гаспадарчага разліку. Пастанова ў справе камбінатаў акрэслівае прынцыпы іх пакліканя і арганізацыйную структуру. Будуць яны паклікацца там, дзе акрэсленыя вырабы прызнана ў рамках сэлектыўнага развіцця вядучымі і выступае патрэба арганізавання іх прадукцыі пад супольным кіраўніцтвам у адным гаспадарчым комплексе.

## ПЕРАД СНЕГАМ

Агляд падрыхтоўкі да зімы паказаў, што найлепш падрыхтаванымі да зімы з'яўляюцца не тыя гарады, якія маюць найбольш клопатаў са снегам, але гарады найбагацейшыя. Недастатковую падрыхтоўку да барацьбы са снегам сцвердзілася ў Беластоку, Кельцах, Зялёнай Гужэ і Ольштыне. (п)

 ВАЯВОДСТВА

## КАСТРЫЧНІЦКАЕ СВЯТА

Грамадскасць Беласточчыны, як штогод, урачыста адзначала 52 гадавіну Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. З гэтай нагоды адбыўся ў беластоцкім тэатры ўрачысты канцэрт. З прамовай перад канцэртам выступіў сакратар ВК Вітальд Мікульскі. Заявіў ён, між іншым, што Кастрычніцкая рэвалюцыя — гэта не толькі вялікае гістарычнае здарэнне, гэта перш за ўсё яшчэ жывая ідэя, якая распаўсюджваецца па ўсіх кутках свету.

Мітынгі і ўрачыстыя пасяджэнні адбыліся ў прадпрыемствах і ўстановах. У прадпрыемстве Дзяржаўны лес у гонар кастрычніцкага свята дала канцэрт наша эстрадная група «Лявоніха».

## У ГОНАР НАСТАЎНІКАМ

Сёлеташні Дзень настаўніка мае асабліва ўрачысты характар. Настаўнікі адзначаюць 25-годдзе сваёй асветнай і грамадскай дзейнасці. Аб высокім прызнанні для настаўніцкай прафесіі сведчыць той факт, што ў Беластоку паклікана Ганаровы камітэт для адзначэння Дня настаўніка. Гэты камітэт узначальвае І сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку А. Лашэвіч, а яго членамі з'яўляюцца кіруючыя асобы ўсіх палітычных, грамадскіх і дзяржаўных устаноў. Сярод іх: старшыня Прэзідыума ВРН — С. Жмійка, сакратар ВК ПАРП — В. Мікульскі, старшыня ВК ЗСЛь — Т. Гоздэк, старшыня ВК СД — Р. Бартнік, старшыня ВК Фронту адзінства народа — С. Юхніцкі і старшыня Ваяводскай камісіі прафсаюзаў — Д. Карповіч.

## ГОСЦЬ З В'ЕТНАМА

Беласточчыну наведаў прадстаўнік пасольства Часовага Рэвалюцыйнага Ўрада рэспублікі Паўднёвага В'етнама — Ле Гоань. Быў ён госцем рабочага калектыву прадпрыемства ваўнянай прамысловасці ў Васількове. Грамадскасць Беластоцкага павета на рукі Ле Гоаня перaказала змагаючамуся В'етнаму падарункі, вартасць якіх ацэнена на 150 тыс. зл. У час мітынгу, які адбыўся ў васількоўскай фабрыцы, яе калектыў прыняў рэзалюцыю. Рабочыя выяўляюць у ёй свой пратэст супраць зверскіх дзеянняў амерыканскіх агрэсараў і адначасова выказваюць сваю падтрымку в'етнамскім барацьбітам за свабоду.

## ВЯСКОВЫ КЛУБ

У вёсцы Тапчэва на Бельшчыне пачаў дзейнасць вясковы клуб. Арганізатарам клуба з'яўляецца ГС у Вышках. Узнік ён па прапанове гуртка Саюза вясковай моладзі, які ў Тапчэве налічвае аж 40 членаў.

## ГАЙНАЎСКАЯ МЭБЛЯ

У гайнаўскім камбінаце драўнянай прамысловасці заканчваюць ужо пабудову мэблевай фабрыкі. Распачне яна прадукцыю І сакавіка наступнага года. У 1970 годзе ў Гайнаўцы выпусцяць мэблі на суму ў 35 мільёнаў злотых.

## ЗЛАДЗЕІ

Ноччу 4-га лістапада г.г. 2-х зладзеяў абакрала таварны магазін у Беластоку. Ужо наступнага дня зладзеяў злавіла міліцыя. (вр)




**Niedziela, 16.XI.**

8.15 Program dnia. 8.20 TV Kurs Rolniczy. „Susz ziemniaczany w żywieniu zwierząt”. 8.55 „Przypominamy, radzimy”. 9.05 „Nad Wołgą” — film dok. 9.20 „Chłopcy z ulicy” — film fab. węg. 10.55 „Kronika 50-lecia Kraju Rad — lata 1954—56”. 11.30 „Śpiewające drzewo” (Wilno). 12.00 Dziennik. 12.15 „Reklama w piosence”. 12.25 Przerwa. 13.25 Program dnia. 13.30 „Przemiany”. 14.00 „Cecylia — lekarka wiejska” — film. 14.30 Teatrzyk dla Przedszkolaków: „Zajęczy strach” — bajki S. Michałkowa. 15.15 „Brat Jerzy” — film TVP („Przygody pana Michała”). 15.45 „Klub Sześciu Kontynentów”. 16.40 PKF. 17.00 „Trapecja” — balet Prokofiewa (Moskwa). 17.30 Sprawozdanie sportowe. 18.10 „Śpiewnik domowy” St. Moniuszki. 19.05 Felieton literacki. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Teatrzyk Ludwika Jerzego Kerna”. 21.05 „Piekło i niebo” — film fab. pol. 22.35 Magazyn Sportowy.

**Poniedziałek, 17.XI.**

14.25 i 22.25 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 15.35 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla dzieci: „Zwierzyniec”. 17.35 „Echo stadionu” 17.50 „Świat w operze” — film pol. 18.10 „Konfrontacje” — film dok. bułg. 18.40 „Eureka”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: J. Bliziński — „Pan Damazy”. 21.35 „Godziny prawdy” — program dokument. 22.05 Dziennik.

**Wtorek, 18.XI.**

8.20 „Jak się młody Noszty żenił” — film fab. węg. 10.00 Dla szkół: (kl. IV) „Kartka papieru”. 10.20 Przerwa. 10.55 Dla szkół: (kl. III lic. i XI) Język polski — Witkacy „W małym dworku”. 11.30 Przerwa. 12.00 „Wybieramy zawód”. 12.20 Przerwa. 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Trawienie i wchłanianie pokarmów u zwierząt”. 14.25 i 22.35 Politechnika TV I roku. Matematyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 „Pierwszy raz w szkole” — film radz. 17.05 „Bryza”. 17.35 Telewizyjny Ekran Młodych. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 Sprawozdanie z II połowy meczu piłki nożnej o Puchar Miast Targowych Gwardia (Warszawa) — Dunfermline (Szkocja). 20.50 „Cyrograf dojrzałości” — film fab. TVP. Po filmie: Dyskusja młodzieżowa o filmie „Cyrograf dojrzałości” 22.15 Dziennik.

**Środa, 19.XI.**

10.00 „Dziewczyna kłamie” — film fab. jug. 11.30 Przerwa. 11.50 Transmisja z pobytu na księżycu (pierwszy spacer) załogi Apollo-12. 15.40 Przerwa. 16.25 Program dnia. 16.30 „100-na rocznica urodzin Lenina” („Śladami Lenina”) (Leningrad). 17.00 Dziennik. 17.10 Dla młodych widzów: „Dzień Nubii” — rep. film. 17.40 TV Kurier Warszawski. 18.00 Fińska muzyka taneczna (Helsinki). 18.20 Magazyn Medyczny. 18.50 „Trzy pokolenia” — program wojskowy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Muzyka baroku” — XI program („Słuchamy i patrzymy”). 21.10 „Światowid”. 21.40 PKF. 21.50 Studio 63: Z. Krasiński — „Szkice do portretu”. 22.35 Dziennik.

**Czwartek, 20.XI.**

8.15 „Matematyka w szkole”: „Długość krzywej”. 8.45 Przerwa. 10.55 Dla szkół: (kl. VI) Historia — „Wielcy mistrzowie Odrodzenia”. 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. III lic. i XI) Język polski — „Leśmian — Staff — Tuwim”. 12.30 Przerwa. 12.45 i 13.55 Mechanizacja Rolnictwa: „Układ chłodzenia silników spalinowych”. 13.15 Przerwa. 14.25 i 22.20 Politechnika TV I roku. Geometria wykreślna. „Transformacje”. 15.00 i 22.55 Politechnika TV I roku. Geometria wykreślna. 15.30 Przerwa. 16.30 Program dnia. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem”. 17.45 TV Kurier Białostocki. 18.00 „Myśliwskie pozdrowienie” („Polowanie i ochrona przyrody” (Berlin). 18.30 Magazyn ITP. 18.40 „Przegląd muzyczny”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Anielska buzia” — film fab. USA. 21.35 „Refleksje”. 22.00 Dziennik.

**Piątek, 21.XI.**

8.20 „Opowieść sentymentalna” — film fab. rum. 9.55 Dla szkół: (kl. VII) Zajęcia techniczne — „W świecie sztucznych tworzyw”. 10.25 Przerwa. 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Wychowanie obywatelskie — „W gospodarstwie rolnym”. 11.25 Przerwa. 14.25 i 22.25 Politechnika TV I roku. Matematyka. 15.15 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla młodych widzów: „Szkoła Jungów Latającego Holendra”. 17.25 Dla młodych widzów: „Zrób to sam”. 17.40 „Duch na Wyspie Mnicha” — film. 17.55 „Nie tylko dla pań”. 18.15 TV Kurier Mazowiecki. 18.30 „Perspektywy techniki” — rep. 19.00 „Przepraszamy za usterki” — Tygodnik Aktualności Satyrycznych. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Przygody pana Michała” — film TVP odc. II. 20.35 „Inżynier czy referent”. 21.05 Teatr TV: J. P. Gawlik — „Dług”. 22.05 Dziennik.

**Sobota, 22.XI.**

9.15 „Billy kłamca” — film fab. ang. 10.55 Dla szkół: (kl. III lic.) Biologia — Różnorodność planów budowy zwierząt bezkręgowych . 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. VI) Geografia — „Jak powstaje prognoza pogody”. 12.25 Przerwa. 14.10 Program dnia. 14.15 TV Kurs Rolniczy: „Produkcja i wykorzystanie pasz w gospodarstwie”. 14.50 „Wychowanie fizyczne naszych dzieci”. 15.00 Program tygodnia. 15.20 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla dzieci: J. Wilkowski — „Bardzo dziwny zabytek”. 17.45 „Spotkanie z przyrodą”. 18.10 „Nieproszeni goście” — nowela komediowa franc. 18.35 „Tele-Echo”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 Międzynarodowy Festiwal Piosenki „Przyjaźń” (Berlin). 21.05 Dziennik TV Wiadomości sportowe. 21.30 Kino Interesujących Filmów: „Billy kłamca” — film fab. ang. 23.05 Sprawozdanie z meczu hokejowego Czechosłowacja — Kanada.




**Piątek, 14 listopada**

8.00 Nowiny. 8.15 „Cuda przyrody”. 8.30 Film fab. 9.45 „Tobie, młodości!”. 14.55 Program dnia. 15.05 „W eterze — Grodzieńszczyzna”. 16.15 „Ślady na ziemi”. 16.45 „W. Lenin. Kronika życia i działalności”. 17.30 Program o inteligencji twórczej Grodzieńszczyzny. 18.10 Mój Nowogródek. 18.20 Program poświęcony weteranom wojny, ruchu rewolucyjnego i partyzantki na Grodzieńszczyźnie. 18.45 „Pieśń nad Niemnem”. Koncert. 19.35 Film TV o III zjeździe kołchoźników Białorusi. 20.10 „Tarcza i miecz”. Film fab. 3 seria. 21.25 Wywiad z mistrzami olimpijskimi w siatkówce.

**Sobota, 15 listopada**

8.00 Program rozrywkowy. 8.30 Przegląd międzynarodowy. 8.50 „Szkatułka muzyczna”. 9.10 „Człowiek ziemi mojej”. 9.30 Film dok. o Leninie. 10.00 Dla młodzieży. 10.40 TV uniwersytet ludowy. 12.30 TV teatr dla dzieci. 13.15 TV klub robotniczy. 14.15 O kołchozie „17 września”. 15.00 Nowiny. 15.15 TV barwna. 16.30 Przed III zjazdem kołchoźników. 17.00 „Kto sieje wiatr...” 17.30 „Tarcza i miecz”. Film fab. 4 seria. 18.45 Nowiny. 19.00 Spektakl Państw. Teatru Dramat. im. J. Kupały. 21.00 Program estradowy. 21.45 Nowiny.

**Niedziela, 16 listopada**

8.00 „Kiosk muzyczny”. 8.30 „Białe i czarne”. 9.00 Dla młodzieży o kosmosie. 10.00 Pieśni A. Ostrowskiego. 10.45 Dla żołnierzy. 11.30 W świecie sztuki. 12.00 TV barwna. 13.15 Dla żołnierzy. 14.15 Nowiny. 14.30 Przed III zjazdem kołchoźników. 15.30 TV barwna. 17.45 Nowiny. 18.00 Spektakl TV. 19.00 „Siedem dni”. 19.45 W eterze „Młodość”. 20.45 „Tydzień sportowy”.




## М. ФЕДАРОЎСКІ І ЯГО СПАДЧЫНА

Выйшаў нядаўна з друку новы VII том этнаграфічнай працы Міхала Федароўскага «Lud Białoruski». З'яўляецца ён «суплементам» (дапаўненнем) да двух папярэдніх (V і VI) тамоў «Беларускага люду» выдадзеных ужо ў Народнай Польшчы. У томе змешчаны (увесь так званы «Навуковы апарат» да двух папярэдніх тамоў: алфавітны спісак твораў з падачай старонкі і тамоў, у якіх яны друкуюцца, каментарыі і тлумачэнні да пасобных твораў, слоўнік больш цяжкіх слоў, выступаючых у зборах Федароўскага, спісак мясцовасцей, у якіх творы гэтыя запісаліся, карта гэтых мясцовасцей, спісак інфарматараў. Найважнейшай аднак часткай новага тома з'яўляюцца навуковыя працы польскіх беларусазнаўцаў, якія працавалі над зборамі М. Федароўскага.

На асаблівую ўвагу заслугоўваюць працы аб самім Федароўскім. Як вядома, постаць гэтага вялікага збіральніка беларускага фальклору — не гледзячы на яго вялікае значэнне не толькі ў беларускай этнаграфіі, але і на агульнаславянскім фоне — была амаль зусім невядомай. Звестак аб М. Федароўскім нельга было знайсці ні ў польскіх ні ў савецкіх энцыклапедыях. Новы том «Люду» папаўняе гэты прабел у нашых ведах. Змяшчае ён артыкул Гэлены Казэрскай аб жыцці і творчасці Федароўскага і артыкул Е. Дамраша аб Федароўскім як вучоным. Артыкул Г. Казэрскай падае ўсе біяграфічныя звесткі аб М. Федароўскім, якія можна было ўстанавіць на аснове існуючых матэрыялаў, а таксама аб ацалеўшых рукапісных матэрыялах этнографа. Ежы Дамраш рысуе сілуэт М. Федароўскага, як этнографа на агульным фоне развіцця польскай этнаграфіі і яе зацікаўлення народнай культурай беларусаў. Супольны артыкул Антаніны Абрэмбскай-Яблонскай і Гэлены Казэрскай аналізуе і тлумачыць праблемы звязаныя з пасмяротным выданнем рукапіснай спадчыны Федароўскага.

Асаблівую цікавасць выклікае артыкул Рышарда Вайцехоўскага: Песні беларускага люду ў зборы М. Федароўскага, а польская народная песня. Праводзіць ён падрабязны аналіз характэрных рысаў беларускай народнай песні, а перш за ўсё яе мастацтва. «Галоўнай рысай, — піша Р. Вайцехоўскі, — песні са збору Федароўскага з'яўляецца хваліючы лірызм, часта замкнуты ў дасканалую паэтычную карціну». Гаворачы аб характэрным для беларускай народнай песні шырока разбудаваным паралелізме, т. зн. адначасовым апавяданні аб з'явах прыроды і чалавечага жыцця, аўтар гэтых сцвярджае:

«Усё насоўвае думку аб асабліва цікавай мастацкай будове беларускіх песень. У параўнанні з ёю польская народная паэзія аперыруе больш скромнымі сродкамі. Пры майстэрска разбудаваным паралелізме беларускіх тэкстаў, польскія тэксты складаюцца з карцін вузейшага аб'ёму, яны больш сціснутыя і не так эфектыўныя».

У аналізаваным томе «Люду» знаходзім таксама цікавы артыкул аб музыцы збораў Федароўскага напісаны Янам Стэшэўскім і артыкул аб мове гэтых песень напісаны мовазнаўцам Станіславам Глінкай.

Том папярэджвае ўступ напісаны вядомым польскім літаратуразнаўцам і фалькларыстам Юльянам Кшыжаноўскім, які ў свой час працаваў, між іншым, над уплывамі беларускага фальклору на польскую літаратуру. Ва ўступе прыпамінае ён чытачу доўгую гісторыю зацікаўленняў польскіх пісьменнікаў, этнографаў і дзеячаў беларускім фальклорам. Гаворачы аб размерах працы Федароўскага, які хаця па паходжанню кашуб, усё сваё жыццё прысвяціў аднак даследаванню беларускага фальклору — аўтар прыводзіць некалькі лічбаў. На 3500 старонках дагэтуль выдадзеных тамоў «Беларускага люду» мы знаходзім звыш 500 казак, каля 3400 розных тыпу этнаграфічных інфармацый, каля 13000 прымавак і загаворак, звыш 6000 песень. У заканчэнні свайго ўступу Юльян Кшыжаноўскі піша:

«Надзеемся, што будучыня ацэніць дасягненні М. Федароўскага, што належнай ацэнкі дачакаюцца як яго зборы, так і яго дзейнасць. Аднак патрэбны да гэтага пэўныя ўмовы. Тры, а найбольш чатыры тамы «Беларускага люду» гэта ўнікумы. У маім перакананні трэба іх перавыдаць, даючы сучасны фалькларыстычны каментарый, бо толькі тады можна будзе паспрабаваць адказаць кім быў і што асягнуў М. Федароўскі ў галіне фалькларыстыкі не толькі беларускай і польскай, але і славянскай».

Ул. Паўлючук

## Культурныя справы

Павятовыя ўлады Дуброўшчыны ў сваёй дзейнасці многа ўвагі прысвячаюць справам культуры. Ідуць намаганні, каб 11 святліц і 29 клуба-кавярняў, а таксама школы ў павеце сталіся сапраўднымі цэнтрамі культурнага жыцця. У клубах у гэтым годзе ў Дуброўскім павеце працуе па 2 чалавекі. Адзін з іх поўнасцю займаецца культурна-асветнымі справамі. У гэтым годзе ў Сухаволі пакліканы да жыцця Грамадскі цэнтр культуры (ГОК). Пры ім існуе настаўніцкі вакальна-музычны калектыў. У павеце працуе 15 мастацкіх калектываў.

Ад даўжэйшага (ужо часу ў павятовых уладах ідзе гутарка аб стварэнні рэгіянальнага музея Дуброўшчыны. Некаторыя школы і некаторыя настаўнікі сабралі ўжо шмат экспанатаў. Напрыклад, у школе ў Дуброве ёсць сабрана калекцыя лямп — ад найдаўнейшых прымітыўных аж да сённяшніх, да такіх, якія існуюць і зараз у неэлектрыфікаваных вёсках. Шмат экспанатаў дадуць самародныя мастакі Дуброўшчыны, а менавіта: ткачыхі народных дываноў Францішка Рыбка і Анна Крыстань, а таксама скульптар Казімір Святліцкі. Справа ўтварэння рэгіянальнага музея будзе актуальнай мо яшчэ ў канцы гэтага года, а найпазней у першым квартале 1970 года, калі будзе аддадзены ў карыстанне адзін з будынкаў, які яшчэ пакуль што ў будове.

(мх)

# КВАРТАЛ ШЧАСЛІВЫХ



У гандлёвым павільёне не хапае аднак яблыкаў і агародніны. Дык дзяржаўны гандаль з прыемнасцю выручае селянін.

«Зялёны пасёлак» з'яўляецца сімвалам цяперашняй і будучай Саколкі. Пабудову «Зялёнага пасёлка» пачалі ў 1963 годзе. Зараз знаходзіцца там 6 ужо гатовых, прасторных, светлых дамоў з цэнтральным абаграваннем, з вадой і ваннымі пакойчыкамі. Сёмы корпус будзе перадазены ў карыстанне яшчэ ў апошніх днях гэтага года. Дамы, якія знаходзяцца ў «Зялёным пасёлку», пабудавалі за грошы з бюджэту гарадской рады. Апрача гэтага ёсць там два корпусы сакольскай жыллёвай спулдзельні.

Саколка пасля вайны шматзначна разраслася. Зараз у горадзе налічваецца звыш 10 тысяч жыхароў. Маладыя людзі заснoўваюць уласныя сем'і, прыязджаюць у Саколку спецыялісты. Яны патрабуюць недзе жыць. За апошнія 4 гады ў Сакольскім павеце (у асноўным у самой Саколцы) пабудавана 114 памяшканняў з дзяржаўных сродкаў (тзв. кватэрунковых) і столькі ж памяшканняў пабудавала сакольская жыллёвая спулдзельня, а 8 памяшканняў пабудавалі прамысловыя прадпрыемствы Сакольшчыны.

Многа гэта ці мала?

Залежыць, як мерыць. Калі дасягненні жыллёвага будаўніцтва прыраўняць да патрэб насельніцтва, дык аказваецца, што малавата. План жыллёвага будаўніцтва быў, на жаль, выкананы тут толькі ў 88%. Гарадскія ўлады, разглядзеўшы найбольш неабходныя патрэбы жыхароў Саколкі, рашылі, што толькі для 89 сярод іх могуць у бліжэйшых гадах прыдзяліць памяшканне. 160 заявак на памяшканні вымушаны былі яны аформіць адмоўна. Проста няма чаго раздзяляць. Апрача гэтага праведзены ў верасні г. г. аналіз стану памяшканняў у Саколцы выявіў, што 60 старых будынкаў патрабуе натыхмястовага грунтоўнага рамонту. Знаходзіцца яны зараз у такім стане, што ў кожную хвіліну могуць завальцца.

Так што новы жыллёвы квартал Саколкі — «Зялёны пасёлак» — з'яўляецца кварталам шчаслівых. Яго жыхарам зайздросціць многія гараджане. (вр)



Адзін з першых будынкаў «Зялёнага пасёлка» ў Саколцы.



А вось у такіх пяціпавярховых карпусах жыве па 42 сям'і.



А тут гандлёвы павільён. У ім можна купіць амаль усё, што патрэбна жыхарам «Зялёнага пасёлка». Будзе тут таксама адкрыта цырульня.

Фота ЦАФ — Сянько



У «Зялёным пасёлку» знаходзіцца ўласная школа. Гэта пачатковая школа № 4. Пабудавалі яе ў 1968 годзе.




Пачатак на стар. 1

### СКАЗАЛІ Ў ГРН...

**Лідзія Галіцкая** — сакратар грамадскага бюро: — Асноўная справа — знайсці кагосьці на кіраўніка святліцы. Маем 1200 зл. на месячную зарплату. Мы аб'яўлялі, што прыймем працаўніка. Да нас паступалі заяўкі, але калі даведваліся, што штат светліцовага, заяўкі адклікалі. І так ужо амаль два гады, як святліца закрыта — няма светліцовага. Калісьці быў у Нарве клуб-кавярня, але не было кіраўніка і трэба было клуб закрыць. Зрэшты, у гэтым клубе панішчылі столікі і іншыя рэчы. Моладзь нараўская не найлепшая, не. Зараз ГРН дамовілася з пажарнай камандай і там ГРН адрамантавала памяшканне на святліцу. Трэба толькі зрабіць сталярку падвойных вокан і дзверы, але на гэта ёсць яшчэ час (20. X. г. г. — А. Л.). Памяшканне святліцы мы пераказалі ЛьЗС-у для вядзення трэніровак. Да новага памяшкання куплена столікі і крэслы. Ёсць таксама музычныя інструменты: 2 гітары, мандаліны і акардэон.

**Голас незнаёмага:** — Тут у Нарве ніколі нічога не будзе. Ніхто ў святліцу працаваць не пойдзе, бо не захоча мець дачыненне з хуліганамі. Ёсць тут такі Віцька, п'яніца і хуліган, які са сваёю кампаніяй разгоніць усё, а ніхто з дурнем не хоча займацца. Міліцыя! Што міліцыя. Яны гавораць: дайце нам прозвішчы, хто хуліганіць і сведкаў, то тады мы іх «залатвім». На такое штосьці таксама ніхто не пойдзе, бо пашто потым маюць помсціцца.

### ...І ПРАДСТАЎНІКІ МОЛАДЗІ

**Ян Чэрнякевіч,** старшыня грамадскага праўлення ЗМВ у Нарве, працаўнік ПОМ: — Два гады таму была святліца і не было так дрэнна, і шапкі скідалі ўваходзячы сюды, і нешта рабілася. Калі светліцовая выйшла замуж і адыйшла з працы, ад гэтага часу тут выраблялі, што хацелі. Штопраўда, быў светліцовы нейкі час, але ён быў перад войскам і святліцай не займаўся. Гэта праўда, што наша моладзь не найлепшая, але калі старшыня ГРН запрапанаваў нам грамадскім чынам аклеіць абоямі і памаляваць святліцу — выканалі гэта з гонарам. Не магу згадзіцца з тым, што ніхто не хоча працаваць у святліцы ў Нарве. Асабіста сам раіў некалькім асобам паступіць сюды на працу. Адной сяброўцы не далі ніякага адказу на яе прапанову працаваць у святліцы і таму пайшла працаваць на пошту. Іншаму сябру не згадзіліся даць памяшкання, хаця б на паўгода, у аграномаўцы, міма што стаіць яно па сённяшні дзень пустое. Уласціва кажучы, моладзь не мае абсалютна дзе збірацца і культурна праводзіць час. Сталярка, аб якой вы гаварылі, ужо год часу робіцца...

Расказы былі доўгія. Вывады простыя. У Нарве ёсць толькі адзінае культурнае памяшканне грамадскай бібліятэкі з 4 столікамі і 16 крэсламі. Святліца рамантуецца гадамі. і то не з прычыны недахопу грошай, а звычайнай нядбайнасці ГРН. Ёсць такая вялікая колькасць установ і прадпрыемстваў, і неяк усім справа гэтая сталася абыякавай. Ці сапраўды няма рады на людзей, якія працуюць у нараўскіх установах, каб прыпомніць ім, што маральна за гэта адказваюць?

Здаецца, што і павет замнога не цікавіўся рашучай развязкай культуры ў Нарве. Зрэшты, каб быць у парадку, трэба прыпомніць, што Нарвай не цікавіцца абсалютна і Гайнаўскі аддзел БГКТ.

А моладзь Нарвы? Моладзь чакае дапамогі, чакае, калі перакажуць ёй у карыстанне святліцу, чакае добрай рады, чакае зацікаўлення.

Па-мойму, моладзь тут наймент вінавата.

**А. Лабановіч**



**ПАШТОЎКА З НАРВЫ.** Новыя крамы. **Фота Цаф — Сянько**

Пачатак на стар. 1

# БУЛЬБЯНЫ МЕДАЛЬ

— Як вы дабіліся такога ўраджаю?

— Штучныя ўгнаенні даю на весну пад збожжа, а зараз пасля жніва лёгка падворваю, каб зямля не перасыхала і рознае зелле не заводзілася. На зіму ару глыбей — на 20—22 сантыметраў, а там, дзе гной, то не так глыбока, бо гною нельга моцна завальваць. Бульбу саджу толькі пад гной. Непасрэдна пад бульбу штучных угнаенняў не даю, бо зямля не паспявае «перагрызці» хлёрак. І ён адкладаецца ў бульбінах. Гэта атрута. Гной вывожу раненька і не чакаю, каб ён перасох, зараз яго прыворваю. Бульбу саджу заўсёды пасля абеду. Ніколі раней, як а 4-тай гадзіне дня. На насенне выбіраю бульбіны здаровыя, сярэдняй велічыні і ніколі іх не разрэзваю. Калісьці з чатырох кілаграмаў «эпокі» развёў аж 170 кілаграмаў бульбы, а вось у гэтым годзе са спулдзельні прадукцыйнай у Вольцы атрымаў 5 цэнтнераў «флісака» і вырасла з яго мне 63 цэнтнеры бульбы. Важна таксама, калі і як абворваецца бульбу. Я гэта раблю толькі пад вечар або зараз пасля дажджу. Нельга абворваць бульбы ў спякоту.

— Які гатунак бульбы лічыце вы самым лепшым?

— Я меў ужо розныя гатункі. Садзіў «парнасе», «первёснкі», «эпоку», «флісакі», «ураны» і «Леніно». Кожны з гэтых гатункаў мае свае добрыя і дрэнныя прыметы. Зараз разводжу «эпоку» і «флісакі».

**М. Нурэцкі**

# Новыя шанцы сакольскіх вёсак

Мураванае будаўніцтва на саламянай Сакольшчыне патрэбна, як хлеб і вада. У мінулым годзе гэты павет атрымаў каля шасці з паловаю тысяч тон цэменту, а ў гэтым годзе амаль удвая больш. Многія ГС-ы маюць машыны да вырабу пустакаў, чарапіцы, якія пазычаюцца гаспадарам. Кожны гаспадар, што хоча сам зрабіць сабе пустакі, чарапіцы і іншыя будаўнічыя матэрыялы, можа атрымаць нават пазыку. У наступным годзе ГС-ы атрымаюць больш бетанярак, дахаўчарак і ўсякіх патрэбных форм. Добры хлеў — гэта палова ўдачы ў жывёлагадоўлі.

Сельскагаспадарчая служба робіць многа, каб палепшыць пароду свіней. Лепшыя гаспадары атрымалі ўжо каля паўтысячы пародзістых свінаматак. Сакольскі павет атрымае яшчэ каля шасцісот свінаматак.

Вялікім шанцам у грашовых прыбытках трэба лічыць кантрактацыю трускалак, цыбулі, памідораў. На гэтых землях удаюцца яны добра. Павятовыя ўлады цікавяцца пашырэннем кантрактацыйнай базы цыбулі ў Крынках, якая за апошнія гады пачала крыху занепадаць. Ёсць намер пашырыць даходную кантрактацыю ільну праслаўленага ў беларускіх песнях сіняга ляночку. **(ся)**

### ПРОСТА НІШТО!

Школьная бібліятэка ў Клюковічах налічвае каля трох тысяч семсот кніжак. Беларускіх кніжак мала, дакладна невядома колькі: разам беларускіх і рускіх каля двухсот. Гэта вельмі мала. Адна беларуская кніжка на двух-трох вучняў. Гэта проста нішто!

### ЯНАШУК СА СТАЎБЦОЎ

Віктар Янашук са Стаўбцоў лічыцца адным з лепшых гаспадароў. У яго шэсць кароў, з чаго тры дойныя.

Аб Янашуку сказалі:

— Цесць яго меў дзве каровы і то наракаў, што нямашака чым карміць.

(ся)



Лістападаўскі нумар «Кантрастаў» шмат месца адводзіць настаўнікам і справам, якія адносяцца да іх прафесіі. Гэта з нагоды іх прафесіянальнага свята. Дык рэдакцыя наладзіла дыскусію аб ролі настаўніка і яго аўтарытэце. У гэтай дыскусіі прынялі ўдзел вопытныя настаўнікі і прадстаўнік беластоцкай Куратарыі. Затым варта адзначыць наступныя артыкулы: Ю. Класоўскага пра культурна-асветную дзейнасць у настаўніцкім асяроддзі, Яна Радзюкевіча аб падпольным навучанні ў час акупацыі, М. Паўліка аб прычынах другагодніцтва і ўрэшце артыкул Э. ТварКоўскай пра выкарыстанне розных жанраў мастацтва ў фармаванні вучнёўскай свядомасці. Аўтар шчыра і крытычна выяўляе недахопы ў гэтай галіне. Нельга таксама забыць пра артыкул Казімежа Тэафілевіча «Дарога да прафесіі». Адносіцца ён да гісторыі польскага школьніцтва на Беласточчыне. Між іншым аўтар успамінае (вельмі адмоўна) пра настаўнікаў — выпускнікоў народных вучыцельскіх семінараў гэтага тыпу, якія, для прыкладу, існавалі ў Трасцянцы ці ў Ялоўцы. «Адзінае іх заданне, — без аніякіх доказаў заяўляе К. Тэафілевіч, — вучыць і выхоўваць дзяцей польскага люду ў рускім духу і прысвойванне ім прыхільнасці да цара...»

Сярод іншых матэрыялаў, багата расееяных на 42 старонках «Кантрастаў», варта аднатаваць абшырны рэпартаж пра Крынкі, дыскусію аб беластоцкім літаратурным асяроддзі, фотарэпартаж з пабыўкі мастакоў-жывапісцаў у Белавежы і сацыялагічную апрацоўку анкеты «пра шчаслівых і закаханых», якую зрабіў наш рэдакцыйны сябар Ул. Паўлючук. У мастацка-літаратурнай частцы «Кантрастаў» знаходзім вершы, апавяданні і рэпрадукцыі малюнкаў настаўнікаў, у тым шмат з Гайнаўкі. **(вр)**

**З НАШАЙ МІНУЎШЧЫНЫ**

# Антыфеадальныя хваляванні сялян на ўсходнім Падляшшы (3)

У XVI і XVII стагоддзях у сувязі з развіццём феадальных адносін на ўсходнім Падляшшы ўзнікае 27 невялікіх мястэчак з агульным лікам 28 тыс. жыхароў. Карысталіся яны шырокай самаўправай (магдэбургскім правам). Аднак з увагі на цяжкае эканамічнае становішча краіны згодна з сеймавай пастановай з 1776 г. большасць іх страціла папярэднія правы. І хоць гараджане не былі зраўнаны ў адносінах налогаў з сялянамі, усё ж ім трэба плаціць невялікі аброк. Выклікала гэта значныя хваляванні, якія ахапілі сем мястэчак Гродзенскай губерні, у тым — Мілейчыцы. Жыхары гэтага мястэчка пасля доўгіх мітынгаў і сходаў напісалі скаргу, што яны ніколі не былі сялянамі, не адраблялі паншчыны, карысталіся прывілеямі гараджан. Сапраўды, каля 20 год пасля ўспомненай сеймавай пастановы кожная са 144 сем'яў Мілейчыц вымушана была адрабляць 8 дзён тваланаў у год (гэтыя гараджане не аралі, сеялі, малацілі, а пільнавалі панскай маёмасці), адбываць па 20 шарваркаў, або раўнавартасць уносіць рамесніцкімі вырабамі. Хваляванні ў мястэчку працягваліся амаль паўстагоддзя. Як піша Н. Н. Улашчык (Предпосылки крестьянской реформы 1861 г. в Литве и Западной Белоруссии, 1965, стар. 426) хваляванні пачаліся каля 1808 года, у 1816 г. зроблена «справу» аб непадпарадкаванні мілейчыцкіх сялян свайму феадалу Клейну. У 1820—1823 гадах хваляванні ўзраслі. Пачалося ад нападу сялян на памешчыцкіх парабкаў, якія знаходзіліся на сенакосе і забранне каля 50 фурманак «са сваіх сенажаці». Эканома «...шляхтича Баковича не только что ругали и хотели веревку затянуть на шии, крича: «убите его до смерти».

И ранили ему в обороне руку, придушили груди так, что он не только два дня болен». Сена Клейна згніло. Затым сяляне засеялі 60 моргаў фальваркавай зямлі.

У 1822 годзе жыхары Мілейчыц падпалілі фальварак, у выніку чаго згарэлі амаль усе пабудовы, маёмасць і частка жывёлы. «Когда из фольварка прибежали звать крестьян на помощь, те пошли, но по дороге скрылись, так что часть пламя оказалось некому, а вынесенные из дома управляющего (которого крестьяне обвиняли, что он стрелял по ним, а тот отговаривался, что он стрелял не в крестьян, а «до бекаса, совсем в другую сторонку») вещи пропали».

За кожным выступленнем сялян супроць мясцовага феадала прыязджала войска. У 1823 г. прыехала сюды сотня салдат і 20 шляхціцаў на пасяленне, пасля — яшчэ 60 салдат. Сяляне не пайшлі аднак на паншчыну, а ўцяклі ў лясы і хаваліся ў іх звыш аднаго года, пасля чаго папрасілі вывесці з Мілейчыц войска. Пачаўся перыяд страшных рэпрэсіі і эксплуатацыі. Выклікала гэта ў 1848 годзе новыя хваляванні. Тагачасны арандатар мілейчыцкага маёнтку Бухавецкі распраўляўся з непаслухмянымі сялянамі выключна па-варварску: правадыроў наказваў 100—200 розгамі «...посыпая виновных солью и смачивая спиртом». Незалежна ад гэтага забраў з агульнага амбара каля 300 чэцвярцей збожжа.

Летам 1846 года ў Новай Волі згарэў ад грому дом. Калі прыехала паліцыя даследваць прычыны пажару, сяляне не захацелі даць прысягі. Паліцыя даведалася, што прычынай гэтага былі пагалоскі, быццам урад даўно звольніў сялян ад паншчыны, а памешчыкі, духавенства і чыноўнікі гэта скрываюць і тыя, хто не прысягне з 1847 года будзе вольны. Хваляванні ахапілі некалькі вёсак. Кіраўніком іх быў Рыгор Серада — чалавек «разумеючы справы па пагляду вышэй свайго становішча». Сяляне раіліся нават з мясцовым бацюшкам, ці не пачаць ім паўстання на ўзор галіцыйскага. Хутка прыбыло сюды войска і суд. Арыштавана 38 асоб, многа сялян катавана. Правадыр Серада заламаўся і пачаў нагаварваць арыштаваных, якія паддаліся яго ўздзеянню. Арыштаваных накіравана для антыпрапаганды ў Заблудаў, дзе яны ізноў адмовіліся падпарадкавацца ўраднікам. Адтуль арыштаваных ізноў накіравалі ў Новую Волю. Тут сустрэла іх усё насельніцтва, акружыла дом, у якім яны знаходзіліся, а цяжарныя жанчыны і дзеці не дазвалялі забраць арыштаваных назад у турму. Паколькі хваляванні пачалі пашырацца на суседнія вёскі, на месца прыехала чатыры роты салдат і многа начальнікаў. Пачаліся масавыя катаванні сялян. У выніку страшэнных рэпрэсій у канцы таго ж года хваляванні закончыліся. (Там жа, стар. 442).

Падобны характар мелі хваляванні сялян у раёне Заблудава ў 1861 годзе. Пачаліся яны ў вёсцы Гнецюкі, жыхары якіх адмовіліся ў прысутнасці паліцыі, святара і начальнікаў аддаваць мясцоваму памешчыку Краўзенштерну усялякіх налогаў. Больш станоўчых 50 правадыроў атрымала розгі, пасля чаго ўсе падпарадкаваліся і на наступны дзень выйшлі да працы.

Затым начальнікі накіраваліся ў Астроўкі, дзе арыштавалі 23 сялян. Адразу аднак збеглася туды яшчэ звыш

# ТРЫБУНА чытачоў

## ДНІ КУЛЬТУРЫ РСФСР

23 кастрычніка ў Бельску Падляшскім з нагоды Дзён культуры Расійскай Савецкай Федэратыўнай Сацыялістычнай Рэспублікі выступіў у кіно «Зніч» маскоўскі эстрадны калектыў. Савецкіх артыстаў з вялікім энтузіязмам віталі жыхары Бельска. Духавы аркестр адыграў гімны — савецкі і польскі. Затым старшыня прэзідыума Гарадской рады нарадовай у Бельску Язэп Рэзлер павітаў гасцей. Падчас канцэрта ўсе нумары праграмы ўзнагароджваліся бураю апладысментаў. Калі закончыліся выступленні, намеснік школьнага інспектара Антаніна Куна падзякавала артыстам за прыгожую савецкую песню, танцы, музыку, а гарцэры прыпаднеслі гасцям кветкі.

Пасля маскоўскія артысты ў клубе «Практычная пані», пры чорнай каве сустрэліся з дзеячамі культуры Бельска Падляшскага.

**Веслаў Фалькоўскі**
Бельск Падляшскі

## ПР У СТАРЫМ БЕРАЗОВЕ

Калектыў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі ў Старым Беразове ў кастрычніку быў закваліфікаваны да другой ступені. У калектыве налічваецца 23 асобы. Тэарэтычныя занняткі закончыліся тут вясною і прыступілі да практычных заняткаў. Зрабілі яны ўсевак чырвонай канюшыны ў ячмень з той мэтай, каб у наступным годзе прыступіць да конкурсу па практычных занятках. Садзяць яны таксама цукровыя буракі. Конкурсы выконваюць не малую прапагандовую ролю. Сталіся яны прыкладам для старэйшых гаспадароў, як павялічыць ураджай ва ўмовах данай вёскі. Вось, напрыклад, Васіль Шпілька атрымаў ураджай цукровых буракоў на 1 ары 620 кілаграмаў. Павел Петручук у пераліку на адзін гектар цукровых буракоў атрымаў 580 цэнтнераў, а Іван Мароз — 640 цэнтнераў. І так, моладзь — удзельнікі калектываў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі на сваіх доследных палетках атрымоўваюць ураджай значна большы ад сваіх бацькоў. За час гадовай вучобы моладзь многа чаго змяніла ў сваіх гаспадарках з агратэхнікі і гігіены.

**Віталіс Назарук**
Гайнаўка

## НОВЫЯ БУДОВЫ

У Дубічах Царкоўных пачаліся работы пры пабудове двух будынкаў — памяшкання для прэзідыума ГРН і медыцынскага пункта. Цяпер будуюцца фундаменты. Працамі кіруе Аляксандр Бандарук з Гайнаўкі. Плануецца, што на восень наступнага года гэтыя аб'екты перакажам ў карыстанне. А зноў 19 кастрычніка жыхары Дубіч Царкоўных грамадскім чынам працавалі пры будове фундаменту гаража на пажарніцкі самаход. Ініцыятарам грамадскага чыну быў мясцовы прэзідыум ГРН.

**Мікалай Панфілюк**
Дубічы Царкоўныя

## ТЭЛЕВІЗАРЫ, РАДЫЁПРЫЁМНІКІ, ТЭЛЕФОНЫ

На Гайнаўшчыне зарэгістравана зараз 2688 тэлевізараў і 4266 радыёпрыёмнікаў. З гэтага ліку на вёсцы 1039 тэлевізараў і 2526 радыёпрыёмнікаў. На вёсках Гайнаўшчыны налічваецца зараз 99 тэлефонаў. (ЯЦ)

## 7000 НАВЕДВАЛЬНІКАЎ

Ад новага года да 1 лістапада, гэта значыць за 10 месяцаў, рэгіянальны беларускі этнаграфічны музей у Белавежы наведала больш 7 тысяч чалавек.




### ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!

Мне 17 год, а Юрку 19. Жывем мы ў адной вёсцы. Дагэтуль я ні з кім «не хадзіла», а Юрка «круціў» з многімі дзяўчатамі. На канікулах т. г. ён пачаў мною цікавіцца, а незадоўга сказаў, што мяне кахае. Сяброўкі мае дык гаварылі, што з такім як Юрка, лепш не задавацца. Сёння ён з адной, а заўтра з другой. Я пакахала Юрку, мы часта былі разам, я пераканалася, што Юрка вельмі культурны і добры хлапец, што лепшага няма ў нашай вёсцы. У верасні, дакладна 1-га, Юрка паехаў у горад вучыцца. Абяцаў пісаць. Я таксама выехала вучыцца, толькі ў іншы горад. Чакала на пісьмо з нецярплівасцю. Пісьмо атрымала, толькі не такое, якога спадзявалася. Юрка пісаў, што чуў аба мне штосьці вельмі дрэннае і не можа мне гэтага даравяць і па той прычыне са мною парывае сувязі. Я ў той сам дзень адпісала яму, каб напісаў мне гэтыя дрэнныя інфармацыі, аднак пісьма ўжо не атрымала. Не ведаю, што рабіць. Мы незадоўга прыязджаем у вёску. Як паступіць, як павесці сябе, падысці і папрасіць выяснення, ці не?

**Марыся**
з Бельскага павета

**Марыся!** Калі Юрка канкрэтна не напісаў, дык відаць нічога ён не даведаўся дрэннага аб табе, а проста знайшоў брыдкую прычыну, каб парваць адносіны з табой. Раю аднак табе пры сустрэчы нічога не ўспамінаць, трымацца з годнасцю. Калі з табою павітаецца — адкажы абавязкова, але не ўдавайся з ім у ніякія бліжэйшыя размовы. Відаць, Юрку на табе не залежыць, таму ён так і паступае, а паступае нетактоўна. Мне асабіста здаецца, што ты павінна заняцца лепш кніжкай — ты ж вучаніца! А каханне пакінуць на будучыню.

Жадаю поспехаў у навуцы.

**Сэрцайка**

## ШКОЛЬНІКІ І П'ЯНІЦЫ

Ужо некалькі год падрад у Плёсках арганізуецца для школьнікаў «Бязлагернае лета». Адным з галоўных яго арганізатараў была Ірына Паўлючук вучаніца 8 класа. Сёлета яна вяла «Бязлагернае лета» з Лідай Максімюк, Галяй Барута і Ванем Васілюком. Яны апекаваліся 40 дзяцьмі. Дзеці пад іх апекай добра аддыхалі, часта тулялі ў бярозавым маладняку. Там знаходзілася тры зямлянкі. Будаўнікамі зямлянак былі хлопцы з групы (застэмпу) Вані Васілюка. Некалькі разоў дзеці дапамагалі старым адзінокім людзям. Яны зносілі жыта, авёс, складалі сена, палолі. Наладзілі сувязь з мясцовай пажарнай камандай. Як бачым, школьнікі многа зрабілі для свайго асяроддзя. А што зрабіла моладзь?

На жаль, нічога. Яна не праяўляе найменшага зацікаўлення грамадскай працай. Моладзь жыве думкамі аб выпіўцы. Калі ўрэшце пачне яна думаць аб культурнай дзейнасці?

Праўда, ужо займаюцца гэтым. Прывяду тут канкрэтныя прыклады з гуртка ЛьЗС, які налічвае 12 асоб. У маі ў гуртку прайшла рэарганізацыя. На старшыню выбраны Аляксандр Леанюк. Дзякуючы яму гурток атрымаў сетку да валейбола і тры мячы — футбольны, валейбольны і баскетбольны. Хлопцы і дзяўчаты займаюцца спартыўнымі іграмі хаця і не маюць спартыўнай пляцоўкі.

А цяпер глянька на членаў гэтай арганізацыі, хто яны? І вось менавіта членамі з'яўляюцца школьнікі ад адзінаццаці да шаснаццаці год.

А моладзь, дакладней хлопцы разам са старэйшымі жыхарамі вёскі знаходзяць задавальненне ў піве і гарэлцы. Можа думаеце, кажу няпраўду? Дык днём наведайце краму (яна на ўскраіне вёскі), а вечарам клуб і самі ўбачыце нязвыклыя карціны. У краме запіваюцца півам. Нецэнзурныя словы, як у нас кажуць — латынь, на кожным кроку, без ніякага сораму. А за крамай — шмат аматараў віна. Справа ў тым, што гарэлка ў краме не прадаецца і таму купляюць віно. П'юць пад папяроску, п'юць без закускі. Пасля можна ўжо ўбачыць бутэлькі з чырвонай наклейкай, гэта значыць з гарэлкай. Яе ў Плёсках купіш сколькі хочаш. Гандляроў гарэлкай, як мошкі. Жоны клянуць п'яных мужоў і гандляроў. І гэтак неразумна праходзяць дні за днямі ў нашых Плёсках. Зруху на лепшае пакуль што зусім не відаць.

**А-КА**
Плёскі

## АРГАНІЗАТАР МОЛАДЗІ

Іван Кандрацюк у 1957 годзе быў арганізатарам гурткоў ЗМВ на вёсках і адначасова быў старшынёй гуртка ЗМВ у Бельску. Як вядомы арганізатар быў выбраны ён дэлегатам на першы з'езд ЗМВ. Ужо 12 год з'яўляецца актыўным дзеячам маладзёжнай арганізацыі. Зараз у павятовым праўленні ЗМВ выконвае функцыю старшыні рэвізійнай камісіі. Іван Кандрацюк з'яўляецца радным МРН і з'яўляецца там старшынёй сельскагаспадарчай камісіі. За сваю грамадскую працу быў узнагароджаны Сярэбраным Крыжам Заслугі. За супрацоўніцтва з ЛьЗС атрымаў «Ганаровую адзнаку ЛьЗС», а за добрую прафесіянальную працу ў сваім прадпрыемстве (штучнае асемяненне жывёлы) атрымаў адзнаку Ударніка Сацыялістычнай Працы.

**Ф. ВЕС.**
Бельск Падляшскі

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
„Sprawa Barnaby Kosa" (czeski), 18—19. „Każdemu swoje" (NRD), 20—21. „Ruchome piaski" (polski), 22—23.

**Дубіны**
„On nie chciał zabijać" (radz.), „Zakochana wiedźma" (włoski), 22—23.

**Нараўка**
„Start" (belg.) „Wiryneja" (radz.), 19—23.

**Нарва**
„Dr Crippen przed sądem" (angl.), „Czarny mustang" (USA), 19—23.

**Чыжы**
„Spotkałem nawet szczęśliwych cyganów" (jugosł.), „Tarahumara" (meksykański), 19—23.

**Дубічы Царкоўныя**
„Miłość blondynki" (czeski), „Skrzydła października" (radz.), 19—23.

**Арэшкава**
„Tabliczka marzenia" (polski), „1914—1918" (franc.), 22—23.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Браньск**
„Trzy godziny miłości" (jugosłowiański), „Stawka większa niż życie" (polski), 19—23.

**Боцькі**
„Salto" (polski), „Testament Agi" (węgierski), 19—23.

**Орля**
„Umarli milczą" (NRD), 19—23.

**Райск**
„Testament gangstera" (franc.), „Tak się zaczęło" (NRD), 19—23.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Kochałem cię" (radz.), „Pomyłka szpiega" (radz.), 18—21.

**Міхалова**
„Ballada o dziewczynie" (wietnamski), 18—19. „Miłość i jazz" (szwedzki), 20—21. „Brat dr Homera" (jugosł.), 22—23.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Gorące lato" (jugosł.), 18—19. „Trzy dni Wiktora Czernyszewa" (radz.), 20—21. „Październik" (radz.), 22—23.

**Янаў**
„Człowiek z M-3" (polski), 19—23.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Obok prawdy" (polski), 18—19. „Walizka z milionami" (franc.), 20—21. „Zbrodniarz, który ukradł zbrodnię" (polski), 22—23.

**Мельнік**
„Kochajmy syrenki" (polski), 18—19. „Brat dr Homera" (jugosłowiański), 20—21. „Czworokąt śmierci" (polski), 22—23.

**Мілейчыцы**
„Stawka większa niż życie" (polski), 19—23.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Twój współczesny' (czeski), „Biały pokój" (bułg.), 19—23.

**Новы Двор**
„Morderca na zawołanie" (NRD), „Dziewczyna" (węgierski), 22—23.

---

— Так, гэта сапраўды цікава, — згадзіўся Шпакаў. — Вы можаце паказаць на карце, дзе зроблены гэтыя тайнікі для дыверсантаў?

— Не. Нас прывозілі і адвозілі ў закрытых машынах. Але мне здаецца, што гэта на ўсходзе і на паўночным усходзе ад Кенігсберга. Там вялікія лясы.

— Як выглядаюць тайнікі?

— Яны глыбока ў зямлі, зверху накрыты дзёрнам, пасаджаны дрэўцы. Уваходы замаскіраваны. Адшукаць такі бункер даволі цяжка. Памяшканні вышэй росту чалавека. У іх пакінуты запасы харчоў, адзення, боепрыпасаў.

— А многа такіх зямлянак?

— Я працаваў на забудаванні чатырох. Але ж, напэўна, будавалі і іншыя, магчыма — і палонныя.

Аўчароў, які воддаль моўчкі сачыў за нашай размовай з немцамі, раптам устаў, падышоў да Готліба і сарваў пілотку з яго галавы. На лысіне чырванеў вялізны гуз.

— Я ведаю гэтага арыйца, — з націскам, стрымліваючы гнеў, сказаў ён Шпакаву.

— Якога арыйца, ты пра што?

— Ды гэта ж Готліб — мой забойца! На вось, памацай! — Ён апусціўся на калені і падставіў Шпакаву сваю патыліцу. — Гэтыя рубцы — сляды ад яго ботаў. — Аўчароў дрыжачымі пальцамі расшпіліў гімнасцёрку. — А вось тут, бачыш, — ён выставіў грудзі, на іх відаць была зарубцаваная плямка з капейку. — Тут прайшла куля — наскрозь. Гэта ж ён, кат Готліб, страляў у мяне ў магілёўскім лагеры ваеннапалонных. Тады мы вярталіся з работы, і я вельмі аслаб. Мяне вялі пад рукі таварышы. Ён, — Аўчароў тыцнуў пальцам у Готліба, — канваіраваў нас. Спыніў калону, падышоў да мяне і стукнуў кулаком па твары. Я ўпаў. Ён стаў таптаць мяне ботамі. Я перавярнуўся тварам уніз, ратуючы вочы. Потым ён зняў вінтоўку і стрэліў у спіну.

Іван змоўк.

Далейшы лёс Аўчарова ведалі мы ўсе. Аўчарова падабралі жанчыны і хацелі пахаваць, але на могілках разгледзеліся, што чалавек яшчэ жывы. Яны схавалі яго ў гумне, і выхадзілі. Потым Аўчароў зноў трапіў у лагер палонных, працаваў у майстэрні па рамонту нямецкай ваеннай тэхнікі. Адтуль уцёк на варожым танку. Мельнікаў нават часцяком пасмейваўся, як той ад разгубленасці спачатку ўключыў быў поўны задні ход і ўшчэнт разнёс пабудову, а потым ужо спахапіўся і, збіўшы кантрольную будку, паімчаўся да лесу.

— Што вы на гэта скажаце, Готліб? — пытаюся ў нацыста, які ўвесь сцяўся пад гнеўнымі позіркамі разведчыкаў.

— Я нічога не ведаю... Я нічога не ведаю... Я нічога не ведаю... — мармытаў ён сабе пад нос.

— Вы будзеце адказваць на нашы пытанні? — спытаў Шпакаў.

— Не! — рашуча адрэзаў Готліб.

Недзе блізка пачуўся стрэл.

— Ратуйце! Тут рускія, — ва ўсё горла зароў Готліб.

Аўчароў хацеў заткнуць яму рот, але Готліб, злаўчыўшыся, так стукнуў нагой у грудзі, што Іван упаў на спіну. Падхапіўшыся, Аўчароў кінуўся на Готліба, гатовы пусціць у яго аўтаматную чаргу, але той ужо ляжаў, распластаўшыся на зямлі. Гэта Зварыка ззаду стукнуў яго па галаве.

— Так яго! — толькі і паспеў сказаць Іван Чорны.

— З нацыстам інакш нельга, — адказаў Юзік, — ён ціхі, калі мёртвы.

— Ціха! Лажыся! — падаў каманду Шпакаў.

Падышоў Мельнікаў.

— Спакойна, хлопцы, гэта я незнарок стрэліў, — вінавата сказаў ён.

Фішар моўчкі сачыў за тым, што адбывалася.

— Трэба і з гэтым канчаць, каб лямантy не нарабіў, — сказаў Аўчароў, беручыся за кінжал.

— Адставіць! — павысіў голас Шпакаў. — Зварыка і Юшкевіч, заступайце на дзяжурства! — а сам сеў складаць тэкст радыёграмы.

— Вазьмі, Зіна, вечарам перадасі, — падаў зашыфраваную радыёграму Шпакаў.

Калі радыёграма была перададзена «Цэнтру» і радыёстанцыя сабрана, камандзір групы сказаў Фішару:

— Вы заставайцеся тут да раніцы - так будзе лепш і для вас і для нас.

Група накіравалася праз поле на хутар, які на карце аблюбаваў Шпакаў. Да яго было кіламетры тры. Там разведчыкі спадзяваліся падсілкавацца, папоўніць свае рэчавыя мяшкі харчам і ўзяць кірунак на Гольдап, да вызначанага «Цэнтрам» пункта.

**(Працяг будзе).**

«НІВА» — ВАШ НАЙЛЕПШЫ ПРЫЯЦЕЛЬ.
ЧЫТАЙЦЕ І РАСПАЎСЮДЖВАЙЦЕ «НІВУ»!

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. H-1 NAKŁAD 6620

